““# СЛОНІМСКІ КРАЙ

№ 9, кастрычнік 2016

Краязнаўчы бюлетэнь



*Нашы землякі*

## Французскі мастак маляваў слонімскага генерала Яна Канопку



Імя гэтага мастака-графіка Мартынэ Ашыль-Луі (1806 — 1877). Пры якіх умовах і калі намаляваў гэтую карціну мастак, невядома. І дзе яна знаходзіцца цяпер — пакажа час і пошукі. Але прыемна тое, што вялікі сусветны мастак адлюстраваў партрэт нашага земляка, генерала французскай арміі Напалеона Банапарта Яна Канопку (1777 — 1814), які быў родам з вёскі Скоўдзічы Слонімскага павета. Адважны Канопка паказаны на кані са сцягам з бел-чырвона-белымі стужкамі.

**Сяргей Чыгрын**

## Як у Слоніме пагражалі знішчыць сінагогу, каб у ёй не выступіў “Гітлер”

У ліпені 1933 года ў горадзе Слоніме было неспакойна. Чакаўся прыезд вядомага дзеяча сіяніцкага яўрэйскага руху Уладзіміра Жабацінскага (1880 — 1940). Сярод сіяністаў існаваў раскол на “левых” і “правых” (“рэвізіяністаў”), якіх якраз і ачольваў Жабацінскі. Ён быў прыхільнікам сілавога, а не мірнага вырашэння пытання са стварэннем яўрэйскай дзяржавы ў Палестыне, выступаў за арганізацыю ваенізаваных арганізацый, лічыў, што сацыялістычныя ідэі падрываюць нацыянальнае адзінства. “Левыя” ж параўноўвалі палітыку Жабацінскага з італьянскім фашызмам, а яго абразліва называлі “Уладзімірам Гітлерам”...

*Працяг чытайце на с. 3*



*Уладзімір Жабацінскі*

*In memoriam*

# Памёр Іван Шэга



4 кастрычніка памёр Іван Іванавіч Шэга, вядомы слонімскі доктар і грамадскі дзеяч, заснавальнік “Шэгамедкансульт”.

Іван Шэга нарадзіўся 25 сакавіка 1953 года ў вёсцы Валеўка Навагрудскага раёна. Пасля заканчэння Валеўскай школы паступіў у Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. Спачатку працаваў у Капылі хірургам, пакуль у 1980 годзе не перабраўся з сям’ёй на радзіму жонкі – у Слонім. Тут ён працаваў доктарам-траўматолагам у Слонімскай раённай паліклініцы. У 1996 годзе стаў спецыялістам вышэйшай катэгорыі. У 2003-2007 гадах быў дэпутатам Слонімскага раённага савета.

Рэдакцыя “СК” выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім у сувязі са смерцю Івана Іванавіча.

*ХРОНІКА*

## Памятны камень для Замчышча




Скульптар Леанід Богдан стварыў помнік Слонімскаму замчышчу ў выглядзе вялізнага валуна з надпісам “ЗАМЧЫШЧА. XI–XVIII ст.ст.”

Помнік будзе ўсталяваны побач з гістарычным цэнтрам Слоніма, дзе па выніках археалагічных даследаванняў выяўлены матэрыялы тысячагадовай даўніны. Менавіта на гэтым узвышшы размяшчаўся адзін з драўляных слонімскіх замкаў.

Цяпер мясцовыя ўлады актыўна заняліся дабраўпарадкаваннем тэрыторыі, дзе будзе ўстаноўлены камень.

## Слонімскі музей на форуме

Слонімскі раённы гісторыка–краязнаўчы музей удзельнічаў у працы III Нацыянальнага форума “Музеі Беларусі”, які праходзіў у Магілёве 30 верасня – 2 кастрычніка.

Форум ладзіцца раз у два гады. Ён сабраў больш сотні лепшых музеяў рэспублікі, якія дэманстравалі ўласны досвед і абменьваліся вопытам працы. Дэвізам мерапрыемства сталі словы “Разбураючы стэрэатыпы, пераадольваючы кансерватызм”.




## Анлайн-віктарына ад “Газеты Слонімскай”




“Газета Слонімская” на сваім сайце ладзіць анлайн-віктарыну “Мой Слонім”, мэтаю якой з’яўляецца пацвердзіць званне слонімца–краязнаўцы. Для гэтага неабходна правільна адказаць на 20 пытанняў. Сярод іх як даволі простыя, так і вельмі складаныя. Напрыклад, як імя слонімскага акцёра, які агучваў у вядомых галівудскіх фільмах Арнольда Шварцнэгера і Джэймса Бонда (правільны адказ – Уладзімір Антонік).

# Як у Слоніме пагражалі знішчыць сінагогу, каб у ёй не выступіў "Гітлер"



*Дэманстрацыя яўрэйскай моладзі на вуліцы Магістрацкай у Слоніме, 1 траўня 1933 года.*

*Працяг. Пачатак на с. 1*

Прыезд вядомага палітыка быў запланаваны на 18 ліпеня, а ўжо 9-га ўначы адбылася першая акцыя, якая ўстрывожыла слонімцаў. Невядомыя намалявалі чорнай фарбай на ходніках вуліц Бернардынскай (цяпер — Васі Крайняга), Міцкевіча, Сянкевіча (цяпер гэта адна вуліца — Першамайская), Школьнай і Магістрацкай (Камуністычная)... гітлераўскія свастыкі. Каля іх былі напісаныя два слова: "Гітлер" і "Жабацінскі". Для паліцыі не было таямніцы, што зрабіць гэта маглі "левыя" сіяністы, але выканаўцаў выявіць не ўдалося.

Тым часам прыезд Уладзіміра Жабацінскага быў перанесены на тыдзень, у сінагозе на Магістрацкай ён мусіў выступіць 11 верасня. Праціўнікі "рэвізіяністаў" працягвалі свае нелегальныя акцыі. На плоце на вуліцы Магістрацкай з'явіўся плакат з надпісам "Прэч яўрэйскі гітлерызм! Жабацінскі — Гітлер!". Уначы ў будынак сінагогі, у якім быў запланаваны выступ палітыка, невядомыя падкінулі запіску. У ёй кіраўніцтва сіяніс-цкай арганізацыі папярэджвалася, што калі выступ у сінагозе не будзе адменены, будынак знішчаць. Гэта ўжо была сур'ёзная пагроза, але на правядзенне мерапрыемства з удзелам Жабацінскага яна не паўплывала. Таксама з'явіліся дзве лістоўкі з абразамі на адрас "рэвізіяністаў" і іх лідара, газета-аднадзёнка, якая заклікала яўрэяў ігнараваць выступ У. Жабацінскага.

Правадыр "рэвізіяністаў" прыехаў у Слонім цягніком з Варшавы каля 13-й гадзіны. Каля вакзалу яго сустракала 500 чалавек. Некаторыя бедныя яўрэі прыйшлі пешшу з Дзярэчына, з Дзятлава. Аднак святочны настрой прысутных спрабавалі сапсаваць апаненты Уладзіміра Жабацінскага. Па дарозе з вакзала ў гатэль "Гранд" на Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы) чуліся абразлівыя выкрыкі, а перад аўтамабілем, у якім ехаў палітык, раптоўна з'явіўся сабака ў... гітлераўскай уніформе.

Да 22-й гадзіны каля сінагогі на Магістрацкай сабралося 900 чалавек. Паліцыя, прадчуваючы працяг правакацый, ачапіла будынак. Гэта быў узмоцнены атрад паліцэйскіх. Яны мелі каскі, гумовыя дубінкі, агнястрэльную зброю. Праціўнікаў "рэвізіяністаў" гэта не спалохала. Яны спрабавалі сарваць мерапрыемства і ўчынілі бойку каля сінагогі на Магістрацкай. Аднак паліцыя ўжыла дубінкі, пацярпелі два чалавекі. І гэта было яшчэ не ўсё. Невядомы паведаміў пажарнай стражы, якая месцілася непадалёку, што ў сінагозе, дзе выступае Жабацінскі, пачаўся пажар. Трывога была беспадстаўнай.

Але лідар "рэвізіяністаў" усё ж выступіў, распавёў пра сваю праграму, і быў прыхільна сустрэты. "Заваяваў шмат сэрц яўрэйскіх", — пісала адна з газет пра вынік прыезду палітыка.

На наступны дзень апоўдні Уладзімір Жабацінскі выехаў са Слоніма ў польскую сталіцу. Мясцовыя ўлады ўздыхнулі з палёгкай. Такіх "гарачых" дзён у горадзе яшчэ не было.

**Сяргей Ёрш**

# Генерал Ян Канопка на Слонімшчыне

Пасля захопу Слонімшчыны французскай арміяй летам 1812 года тут праходзіла фарміраванне 3-га гвардзейскага палка ўланаў з ліку мясцовай шляхты, якім займаўся ўраджэнец вёскі Скоўдзічы Слонімскага павета - французскі генерал Ян Канопка.

Ян Канопка (1777-1814) пачынаў вайсковую службу ў войску Рэчы Паспалітай у час неабвешчанай вайны з Расіяй 1792 года, а затым у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам іншага ўраджэнца Слонімшчыны — Тадэвуша Касцюшкі. Быў цяжка паранены ў бітве пад Мацеёвіцамі, і пасля паражэння выехаў за мяжу, дзе далучыўся да польскіх легіёнаў у Італіі. Ваяваў на баку Францыі. Прадэманстраваў мужнасць і гераізм у шматлікіх бітвах, у выніку чаго ў 1811 годзе атрымаў чын генерала і тытул барона імперыі. У тым жа годзе полк Канопкі ў бітве пад Альбераю разбіў пераўзыхо- дзячую па колькасці брыгаду англійскай пяхоты і захапіў пяць штандараў ворага.

Загад аб фарміраванні 3-га гвардзейскага палка, які павінен быў складацца з 1280 чалавек, Напалеон падпісаў 5 ліпеня. 1812 гоад. Яго фарміраваннем клапацілася Вайсковая камісія Часовага ўраду на землях былога Вялікага княства Літоўскага. 24 ліпеня "Кур'ер Літоўскі" адзначаў: "Больш за 300 выдатных юнакоў з'явілася ў Гародню, дзе генерал Канопка, адзін з герояў Альпухары, ужо амаль сфармаваў полк Літоўскай гвардыі".

У дадатак да віленскіх студэнтаў, у полк запісалася каля 800 асоб са Слонімскага ўезда — "кветкі тутэйшай моладзі": князі Варанецкія, графы Залускія, графы Цвікевічы і іншыя размясціліся пасярод вуліц Слоніма і скрабніцамі чысцілі коней, вучыліся фехтаванню пікамі паўзводна і паэскадронна. Ва ўмовах пагрозы наступлення расійскіх войскаў, Канопцы была пастаўлена задача неадкладна выступіць у накірунку Мінска.

Але генерал, які шмат часу губляў на забавы, да апошняга адцягваў выкананне загада. У выніку 20 кастрычніка ў горадзе неспадзявана апынуліся перадавыя часткі групы Чапліца, якія за апошні дзень пераадолелі адлегласць у 70 вёрст. Правадніком у авангарднай групе ішоў капітан Арнольдзі, які ў 1808-1809 годзе служыў у Слоніме ад'ютантам генерала Кутаісава і таму добра ведаў мясцовасць.

Невялікаму атраду Арнольдзі была пастаўлена задача схапіць Канопку ў хаце, дзе ён знаходзіўся на пастоі і аб чым было данесена мясцовым габрэйскім жыхаром. Арнольдзі ўвайшоў у горад з боку сённяшняй Шашэйнай вуліцы, пераадолеўшы старыя лютэранскія могілкі, і па Ружанскаму тракту апынуўся ў самым цэнтры. Але Канопкі на месцы не аказалася.

За гадзіну да гэтага генерал падзяліў свае войскі на два атрады. Першы з іх у 250 вершнікаў суправаджаў палкавую касу і жонак трох генералаў (Заёнчка, Дамброўскага і Канопкі) і накіраваўся ў напрамку Дзярэчына. Сам жа Канопка на чале другога атрада выехаў Навагрудскім трактам на Дзятлава. На вуліцах Слоніма завязаўся невялікі бой паміж маладымі гвардзейцамі Напалеона і шматлікімі салдатамі рускай арміі. Прадбачачы такую магчымасць, генерал Чапліц загаддзя аддаў сваім войскам распараджэнне па-магчымасці захоўваць жыццё гэтых недалеткаў і забіраць іх у палон.

Арнольдзі тэрмінова адправіў паведамленне аб падзеле войск праціўніка Чапліцу, а сам на чале сотні гусараў і паўсотні казакаў рушыў наўздагон палкавой касе і дагнаў яе каля вёскі Галынка. завязаўся бой. Невялічкая група ўланаў увязалася ў бой з эскортам, а Арнольдзі працягнуў пераслед брычкі



*Літоўскія ўланы.*
*Аўтар: Саманта Гліньска*

з генеральскімі жонкамі, якая імкліва рухалася ў накірунку пераправы праз рэчку Луконіца. Пазней у сваіх успамінах Арнольдзі адзначыў, што бачыў, як да супрацьлегага берагу прыставаў паром з дзвюма брычкамі, у якіх сядзелі Дамброўская і Канопкавая, а Заёнчкавая ўжо да гэтага паспела туды патрапіць. Аднак малады афіцэр не быў гэтым моцна засмучаны, паколькі ля Луконіцы ў яго рукі патрапіла палкавая каса з 200 тысячамі французскіх франкаў, якія жанчыны вымушаныя былі пакінуць, паколькі разумелі, што менавіта яны з'яўляюцца галоўнай мэтай пераследу.

У той жа час Чапліц затрымаў полк Канопкі на дарозе да Дзятлава і імклівым ударам разбіў яго. У палон патрапіў сам генерал, 13 яго афіцэраў і 235 уланаў. Яшчэ некалькі дзесяткаў разбегліся па ўсёй ваколіцы.

Канопка вінаваціў у паражэнні мясцовую адміністрацыю, якая не папярэдзіла пра набліжэнне ворага, на што Чапліц адзначаў, што той сам вінаваты і толькі дарма "змарнаваў полк і згубіў людзей".

Ян Канопка памёр 20 снежня 1814 года ў Варшаве.

**Васіль Герасімчык**

# Уцёкі генерала Канопкі
## Ваенна-гістарычная быль


*Міхаіл Рылко (1934-2012)*

Дзякуючы гродзенскаму гісторыку і калекцыянеру Янку Лялевічу, у рэдакцыю "СК" патрапілі асабістыя матэрыялы слонімскага журналіста Міхаіла Рылко, якія ўяўляюць сабою арыгіналы яго шматлікіх артыкулаў, напісаныя для разнастайных выданняў. У асноўным яны датычаць гісторыі Слонімшчыны. Гэта як рукапісныя запісы, у тым ліку артыкулы іншых краязнаўцаў і гісторыкаў, так і машынапісныя нататкі.

На жаль, большая частка яго матэрыялаў, у тым ліку сабраная калекцыя каштоўных прадметаў стала часткай экспазіцыі ў Нясвіжскай ратушы.

Міхаіл Рылко нарадзіўся ў сям'і гадзіннікавага майстра ў Ганцавічах Брэсцкай вобласці 9 траўня 1934 года. Працоўную дзейнасць пачынаў токарам, але ў далейшым займаўся журналістыкай. У Слоніме ён жыў на вуліцы Карла Маркса. Аўтар некалькіх краязнаўчых кніг. Памёр 5 студзеня 2012 года. Пахаваны ў Кракаве.

Пачынаем змяшчаць на старонках "СК" яго артыкулы, першым сярод якіх прысвечаны генералу Яну Канопку. Нягледзячы на састарэлыя катэгорыі і ўспрыманне вайны 1812 года як "айчыннай", у гэтым матэрыяле важна перапрацоўка самой інфармацыі, зробленая на падставе матэрыяла з ненадрукаванай кнігі Яўгена Леашэні.

**Васіль Герасімчык**

Наш зямляк, кандыдат ваенна-тэхнічных навук Яўген Варфаламеевіч Леашэня — аўтар рукапіснага трохтомніка "Да гісторыі Слонімшчыны, Слоніма і пасёлка Альбярцін" У адной з гэтых кніг ёсць старонкі, прысвечаныя падзеям 1812 г. на Слонімшчыне. Яны і ляглі ў аснову гэтага артыкула.

У халадзеючым кастрычніцкім небе скупа мільгаюць зорачкі, а ў доме генерала Канопкі (паход Напалеона на Расію натхніў польскіх магнатаў і шляхту, якія разлічвалі з дапамогай яго зноў захапіць беларускія землі, вернутыя Расіі ў выніку трох раздзелаў Рэчы Паспалітай.

Ураджэнец Слоніма барон, брыгадны генерал Канопка быў адным з тых, хто меў такую надзею). У літых падсвечніках аплываюць гарачыя свечы. У банкетнай зале грыміць медзь палкавога аркестра і ў старадаўнім вальсе кружацца дамы з кавалерамі. Барон сядзіць у вясёлай кампаніі. Застольныя прамовы і тосты чаргуюцца са звонам бакалаў.

З-за стала з напоўненым да краёў бакалам устае Канопка:

- Панове, з намі імператар Напалеон і мы з ім – да перамогі!

Услед за генералам падымаюцца ўланы з яго адборнага палка, які знаходзіцца пад найвышэйшай апекай самога імператара Францыі. У паветра ляцяць канфедэраткі:

- Віват Напалеону!

Генерал адчувае сябе ва ўдары. Ад старога віна і знакаў увагі, якімі яго акружаюць, у яго злёгку кружыцца галава. Яму вельмі хочацца пастаянна быць у цэнтры ўвагі, і ён сыпле астротамі направа і налева. Яго каламбуры выклікаюць гамерычны смех.

Захоплены гэтым заняткам ён не адразу заўважае свайго палкавога ад'ютанта, які кідаецца на ўсякія хітрыкі, каб прыцягнуць яго ўвагу.

- У чым справа Стральбіцкі? – нарэшце звяртаецца Канопка.

- Экстранае паведамленне, пан генерал! – звініць шпорамі ад'ютант і тут жа выходзіць за генералам з банкетнай залы.

Хутка ў доме сціхае. Раптам кудысці знікаюць удалыя госці. У двары чуваць нецярплівае ржанне коней. Штомінутна становіцца ціха. Толькі ў банкетнай зале, злёгку патрэскваюць незатушаныя свечы.

Яшчэ існавала Вялікая армія Напалеона, а недалёка ад рускай граніцы з Варшаўскім княствам на яго войскі рабіліся дзёрзкія набегі.

…У Пружанах спыняецца перадавы атрад пад камандаваннем генерала Чапліца (Чапліц Е.У. – адзін з праслаўленых рускіх генералаў часоў Айчыннай вайны 8 кастрычніка 1812 г. ён разграміў пад Слонімам польскі конна-гвардзейскі полк генерала Канопкі, за што яму


*Ян Канопка*




*Літоўская пяхота. Аўтар: Крыштаф Каманецкі*

было прысвоена званне генерал-лейтэнанта).

Толькі што атрыманы загад адмірала Чычагова — атакаваць польскі конна-гвардзейскі полк у Слоніме.

Па выкліку Чапліца з'яўляецца капітан Арнольдзі (Арнольдзі І.К. – удзельнік вызвалення Слоніма ў 1812 г., пазней генерал рускай арміі).

- Сядайце, Іван Карлавіч, - запрашае генерал. — Маю аб Вас звесткі, капітан, што вы добра ведаеце Слонім. — Тры гады кватараваў у гэтым горадзе, Яфім Ігнатавіч. Меў гонар састаяць ад'ютантам пры графе Кутайсаве (Маецца на ўвазе Кутайсаў А.І., вядомы рускі генерал начальнік артылерыі ў Заходняй рускай арміі загінуў пры Барадзіне).

- У такім выпадку я спадзяюся на вас, — гаворыць генерал і выкладае план маючай адбыцца справы, у якой капітану адводзіцца немалаважная роля.

… Ужо займаўся золак, калі Арнольдзі з некалькімі казакамі прабраўся да дома Канопкі. Нідзе не відаць ні варты, ні нават вартавога ля ганку. Не трацячы ні мінуты, Арнольдзі кідаецца ў пакоі. Нідзе нікога. Гусары прывялі аднекуль Канопнінскага дворніка, і той расказвае, што не больш гадзіны, як Канопка адправіў на Дзярэчын атрад уланаў з касаю, а сам, сабраўшы полк, паскакаў на Вільна.

Капітан адразу пасылае ганца да Чапліца, каб паведаміць аб уцёку Канопкі, а сам з невялікім атрадам пускаецца па дарозе на Дзярэчын. Не даязджаючы некалькі вёрст да Галынкі наганяе ўланаў з касаю, і тыя бачачы казакаў разбягаюцца хт куды.

Вестка аб уцёку Канопкі застала Чапліца ў Ружанах. Ён пакідае пяхоту і артылерыю з абозам, а сам з атрадам гусараў і казакаў імчыць за ўцекачамі па віленскай дарозе.

Некалькі гадзін імклівага кар'ера, і на чарговым павароце авангард дае знаць: "Уперадзе – праціўнік!".

Уланы адыходзілі суцэльнай калонай, якая завяршалася атрадам прыкрыцця. На гэтым участку дарога ішла на пад'ём, і Чапліц лёгка аглядаў увесь канопкінскі полк, які расцягнуўся на некалькі вёрст. Сам сабе прыкінуў: "Бадай, не аднаго мўго салдата прыдзецца пяць уланаў. Густавата, што ні гавары". А ў слых сказаў казакам:

- Ну як, вусачы-запарожцы? Не зганьбім сцяга рускага? Тыя дружна адазваліся: Нік-нет, ва-ше-ство!

Чапліц пад'ехаў да эскадронных камандзіраў: — Выпрабуем нашу адвагу панове!

У стане праціўніка ішлі спешныя прыгатаванні. Частка воінства займала абарону па абодва бакі дарогі. Уперадзе галоўнага атрада ўланаў круціўся д'яблам коннік на белым кані. Вакол яго развяваліся штандары. Чапліц падаў знак да атакі і пайшоў уперадзе фронту. Але яго з гучным "ура" наганялі казакі.

- Нясуцца, як чэрці! – любуючыся і некалькі засмучаны тым, што яго абганяюць, падумаў Чапліц. А справа ўжо абыходзіў яго вядомы сваёй адвагай і смеласцю казацкі ўраднік Дзячкін. Бакі сыйшліся ў рукапашную. Паўлаградцы з ходу прабіліся ў непрыяцельскую гушчыню. Частка канопкінскага палка аказалася адрэзанай ад галоўнага атрада ўланаў. У радах непрыяцеля нарастала разгубленасць. Яшчэ адзін націск – і вораг пачаў уцякаць.

...Канопка ішоў, цяжка абапіраючыся на плячо свайго ад'ютанта. Нават хутканогі белы конь не выратаваў яго. Ураднік Дзячкін дагнаў генерала і параніўшы пікаю, узяў у палон. Ён ішоў, не падымаючы галавы, а вакол яго маўклівай сцяной стаяў палонены полк. Група палонных афіцэраў расступілася перад ім, прапускаючы наперад. І вось тварам да твару сустрэліся два генералы – пераможац і пераможаны.

Чапліц уважліва разглядваў саблю палоннага генерала. Вычытаўшы на эфесе "За адвагу…", не змог стрымаць усмешкі.

- Не думаў я, генерал, што адважныя так уцякаюць!

Канопка абурыўся:

- Я жадаў бы памерці ў баі!
- Дазволю Вас спытаць за што?
- За свабоду Польшчы…
- …Якую хацелі набыць у радах захопніцкай арміі Напалеона, - абарваў Чапліц і, ужо адыходзячы, сказаў, чаканячы кожны склад: "Яшчэ Аляксандр Неўскі гаварыў: хто пайдзе на нас з мечам, той ад меча і загіне. Шкада, але вы не ўлічылі гэтага, генерал".

Слонім-Якімавічы-Палонка… Гэты шлях і па сённяшні дзень некаторыя называюць напалеонаўскім. Па ім ішлі саюзнікі Напалеона, каб няволіць нашу зямлю. Па ім руская армія адмірала Чычагава насцігала напалеонаўскіх заваёўнікаў, каб назаўсёды заказаць ім дарогу ў Расію.

Многа вады працякло з той пары, і яшчэ не аднойчы выпрабаваў вораг нашу сілу. Але для яго заўсёды быў угатаваны адзін і той жа канец.

**Міхаіл Рылко**

# Камендант Варшавы пахаваны ў Слоніме



*Магіла М. Лявіцкага. Фота С. Ярша*

На слонімскіх ружанскіх могілках маецца помнік у выглядзе саркафага з чырвонага граніту. На магільнай пліце яшчэ і сёння можна разабраць надпіс, у якім пералічаны ўзнагароды чалавека, які тут ляжыць. Гэта Міхаіл Іванавіч Лявіцкі – герой бітваў пад Ачакавым і Ізмаілам супраць туркаў, генерал вайны 1812 года, які ў 1814 годзе быў прызначаны камендантам Варшавы.

Міхаіл Іванавіч нарадзіўся ў 1769 годзе (па іншых дадзеных – у 1761[1]) на Магілёўшчыне, якая ў 1772 годзе пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай была захоплена Расійскай імперыяй. Менавіта на вайсковай службе гэтай дзяржаве праявіў сябе Лявіцкі. 21 лістапада 1781 года ён стаў падпрапаршчыкам Полацкага пяхотнага палка, 28 ліпеня 1787 года быў пераведзены ў прапаршчыкі. Вызначыўся ў час руска-турэцкай вайны 1787-1791 гадоў пры асадзе і захопе Ачакава (1788), пры захопе Бендэр (1789), пры асадзе і захопе Кілii (1790), быў паранены куляй у левую руку пры штурме Ізмаіла. Яго адвага была адзначана залатой шпагай, а таксама залатымі крыжамі за ўзяцце Ачакава і Ізмаіла. У выніку, за ўдзел у баях ён датэрмінова атрымаў адразу два чыны і 4 студзеня 1791 года быў пераведзены ў Кіеўскі грэнадзёрскі полк.

У 1792 і 1794 гадах Лявіцкі ў складзе расійскага войска Аляксандра Суворава прымае ўдзел у ваенных кампаніях супраць Рэчы Паспалітай, за што атрымаў званне капітана, секунд- і прэм’ер-маёра. 12 жніўня 1798 года ён узначаліў Кіеўскі грэнадзёрскі палк.

8 чэрвеня 1799 года, праз 18 гадоў пасля пачатку службы, ён даслужыўся да палкоўніка, а ўсяго праз чатыры гады – 16 траўня 1803 года пераведзены ў генерал-маёры з прызначэннем шэфам Падольскага мушкетнага (перайменаваны ў 1810 годзе ў 36-ы егерскі) полк.

У вайне 1805-1807 гадоў супраць Францыі, Лявіцкі ў 1805 годзе вызначаецца ў бітвах пры Амштэттэне і Крэмсе, а пад Аўстэрліцам паранены шабляй у галаву і атрымаў кулявыя раненні ў правую нагу ды левае плячо. У час бітвы пры Прэйсіш-Эйлаў 26-27 студзеня 1807 года Лявіцкі чарговы раз дэманструе мужнасць і адвагу, за што 8 красавіка ўзнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-га класа, за выключны гераізм пры Гутштадце – ордэнам Святой Ганны 2-й ступені, а пры Фрыдландзе атрымаў ад прускага караля ордэн “Пур ле Мерыт”.

19 кастрычніка 1810 года Лявіцкі ўзначаліў 3-ю брыгаду 7-й (з 1811 – 7-й пяхотнай) дывізіі. У вайну 1812 года яго брыгада ўваходзіла ў склад 6-га пяхотнага корпуса 1-й Заходняй арміі, а сам ён 23 ліпеня быў прызначаны вагенбургам, а затым выконваў абавязкі генерал-паліцмейстара 1-й Заходняй арміі.

Разам з корпусам генерала Дахтурава брыгада Лявіцкага адступіла да Дрысы[2]. Паступова ў яе склад увайшло яшчэ некалькі частак. Атрад Лявіцкага ў ар’ергардзе 1-й арміі дайшоў да Масквы. Напярэдадні Барадзінскай бітвы ён быў прызначаны часовым камендантам Мажайска. У час вайны ён атрымаў ордэн Святога Уладзіміра 3-й ступені.

Пасля адступлення французаў з Масквы, Лявіцкі займаўся пытаннямі размеркавання ваеннапалонных у раёне Калугі, адзначаючы ў адным з рапартаў іх цяжкае становішча[3].

Пасля выгнання французаў, у 1813 годзе ўваходзіў у штаб рэзервнай арміі ў Варшаве, у якой 6 студзеня 1814 года быў прызначаны камендантам. На гэтай пасадзе Лявіцкі знаходзіўся да восені 1818 года, калі быў пераведзены ў армейскую пяхоту. Да гэтага часу ён у 1816 годзе паспеў атрымаць ордэн Святой Ганны 1-й ступені (2 чэрвеня 1825 года – з алмазамі).

20 верасня 1821 года ён стаў генерал-лейтэнантам.

Апошнія гады жыцця Міхаіл Лявіцкі пражыў у Слоніме, дзе і памёр 6 (18) траўня 1831 года[4].

**Васіль Герасімчык**

1. Словарь русских генералов, участников боевых действий против армии Наполеона Бонапарта в 1812-1815 гг. // Российский архив. Т. VII. М., 1996. С. 452.
2. Кіркевіч А., Герой 1812 года // За перамогу камунізму. 17 красавіка 1973 года.
3. М. И. Кутузов: Сборник документов и материалов, М., 1955. с. 105
4. Чыгрын С., Лявіцкі Міхаіл Іванавіч // Энцыклапеды гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 4. Кадэты – Ляшчэня. Мн., 1997. с. 421.

Нашы людзі

# Павел Лысуха — праваслаўны святар з Сурынкі



*Павел Лысуха. 1950 год*

У “Слонімскім краі” быў апублікаваны артыкул Сяргея Ярша пра ўніяцкага рэгента з Альбярціна Аркадзя Лысуху.* Гадоў чатыры таму мяне зацікавіла асоба яго брата Паўла Лысухі (1892 — 1954) — праваслаўнага святара з вёскі Сурынка Слонімскага раёна. Ён 27 гадоў адслужыў у Свята-Мікалаеўскім праваслаўным кафедральным саборы ў Беластоку.

Напісаць мне пра Паўла Лысуху прапаноўваў пры жыцці беларускі праваслаўны дзеяч на эміграцыі Барыс Данілюк (1923 — 2011). Спадар Данілюк пісаў, каб я абавязкова сабраў звесткі і напісаў артыкул пра Паўла Лысуху. У адным са сваіх лістоў Барыс Данілюк паведамляў, што Павел Лысуха меў братоў Мікалая, Серафіма, Аркадзя і сястру Тэклю. “Тэкля была замужам за маім дзядзькам Пракопам з вёскі Сурынка Слонімскага павета. Наймалодшы брат Аркадзь быў кульгавы, але падвучыўся царкоўным спевам і ў 1930-х гадах аж да вайны быў дзякам ва ўніяцкай місіі ў Альбярціне пад Слонімам. Жонка айца Паўла паходзіла, здаецца, з Жыровічаў. У 1930 годзе, калі мы жылі ў вёсцы Шчара на Слонімшчыне, яны прыязджалі нас адведваць. Пра лёс іншых братоў Паўла Лысухі і іх сем’і нічога не ведаю”, — пісаў Барыс Данілюк.

У 2012 годзе я пачаў пошукі. Спачатку завітаў на радзіму Паўла Лысухі — у вёску Сурынка Слонімскага раёна. Звярнуўся да настаяцеля храма святога прарока Іллі ў вёсцы Сурынка айца Генадзя Логіна. Айцец Генадзь паабяцаў дапамагчы, бо ён чуў пра Паўла Лысуху, а ў вёсцы Сурынка амаль палова яе жыхароў маюць прозвішча Лысуха. І праўда, праз некалькі дзён айцец Генадзь мне патэлефанаваў і сказаў, што ў вёсцы жыве пляменнік Паўла Лысухі Уладзімір.

Спадар Уладзімір Лысуха жыве адзін. Жонка памерла. Прыгадваючы яе стары чалавек заплакаў. Але потым супакоіўся і пачаў распавядаць пра айца Паўла Лысуху. “Павел Лысуха — мой родны дзядзька, бацькаў родны брат. Я трохі памятаю яго. Ён жыў і служыў у Беластоку, да нас у Сурынку прыязджаў рэдка. Але калі гасцяваў на Бацькаўшчыне, то любіў пасядзець у агародзе каля жыта. Ён садзіўся на табурэтку і доўга глядзеў, як каласуе жыта. І ўсё нешта думаў. У мяне ў памяці гэта засталося на ўсё жыццё”, — пачаў распавядаць Уладзімір Лысуха.

—А вы чый сын? — пытаюся ў спадара Уладзіміра.

—Я — сын Мікалая Лысухі, роднага брата Паўла. Іх была чацвёра сыноў. Павел быў старэйшым. Зямлі было мала, таму, каб не дзяліцца з братамі і не спрачацца з-за зямлі, Павел пакінуў вёску і паехаў у Беласток. Ажаніўся. У іх была дачка Раіса. Але яна ўжо таксама памерла ў Беластоку.

—А вы ў царкву ходзіце?

—Вядома ж. Мне і бацюшка наш паведаміў, што вы шукаеце сваякоў Паўла Лысухі.

—Якім яшчэ вам запомніўся дзядзька Павел?

—Я памятаю мала, бо бачыў яго рэдка. Але ведаю, што ён яшчэ добра іграў на скрыпцы. Наогул, дзядзька Павел быў вельмі таленавітым чалавекам.

—Сумна вам, Уладзімір Мікалаевіч, аднаму?

—Так, сумна…

З Сурынкі — роднай вёскі Паўла Лысухі, мой шлях ляжаў у Слонім да ўнучкі Уладзіміра і праўнучкі Паўла Лысухаў — Наталлі. Спадарыня Наталля захавала некалькі здымкаў Паўла Лысухі. Яна ведала, што яе прадзед быў вядомым у Беластоку святаром, але больш пра яго нічога не чула.

Павел Лысуха нарадзіўся ў вёсцы Сурынка Слонімскага павета ў звычайнай беларускай, сялянскай сям’і. Сям’я была бедная, таму пра вучобу хлопчыка і размовы быць не магло. Але



*Бацькі Паўла Лысухі (на першым плане) у Сурынцы. Стаіць ззаду з медалём Павел Лысуха (?). Пачатак XX стагоддзя*



*Павел Лысуха з сям'ёй у Росі, 20 чэрвеня 1926 года*

Паўлік хацеў вучыцца, найперш у Жыровіцкім духоўным вучылішчы. Толькі ў Жыровічы, якія знаходзіліся недалёка ад яго роднай вёскі, паступіць не атрымалася. Тады хлопец паступае ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, дзе правучыўся толькі два гады і пакінуў вучобу. Ён становіцца слухачом пеўча-рэгентскіх курсаў у Гродне, якія скончыў у 1912 годзе.

Пасля заканчэння курсаў у Гродне Павел Лысуха працуе псаломшчыкам-рэгентам у прыходзе вёскі Востраў Сакольскага благачыння. Але працаваць доўга не давялося, бо пачалася Першая сусветная вайна. Малады святар вяртаецца на радзіму. І толькі пасля вайны атрымлівае пасаду псаломшчыка-рэгента ў прыходзе Старадзявяткавічы Слонімскага павета. У 1923 годзе Паўла Лысуха пасвячаюць у сан дыякана і ён прызначаецца для служэння ў царкве ў мястэчку Рось (цяпер Ваўкавыскі раён).

Праз чатыры гады айцец Павел па запрашэнню настаяцеля Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора пераязджае на дыяканскую службу ў Беласток. У 1940 годзе пратадыякан Павел Лысуха прыязджае ў Жыровічы. Там яго архіепіскап Панцеляймон Ражноўскі асвячае ў сан прасвітэра і прызначае вікарным святаром Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора ў Беластоку.

27 гадоў служыў айцец Павел Лысуха ў саборы. За гэты час амаль увесь праваслаўны люд Беластока добра ведаў святара, вернікі вельмі паважалі і любілі айца Паўла за яго ціхі, спакойны характар, за пастаянную цеплыню сэрца, за набожнае і праніклёнае правядзенне царкоўных службаў. Ён даслужыўся ў Беластоку да протаіерэя.

Але жыццё протаіерэя Паўла Лысухі было нядоўгім— ён пражыў няпоўныя 62 гады. Яго не стала 5 мая 1954 года. Протаіерэй В. Рафальскі ў "Церковном вестнике" у 1954 годзе пісаў, што тры дні праваслаўныя вернікі Беласточчыны развітваліся з Паўлам Лысухам. На паховінах яго, пісаў протаіерэй Рафальскі, было "много венков, утопающий в цветах катафалк, сонм духовенства во главе с Высокопреосвященным архиепископом Тимофеем и множество народа — это редкая и поучительная была картина".

**Сяргей Чыгрын**

*Ёрш С. Аляксандр Турук і Аркадзь Лысуха — уніяцкія рэгенты ў Альбярціне // Слонімскі край, 2016, № 8, верасень, с. 10-11.

# Слонімскі павет на карце 1817 года



20 лютага 1817 года ў Слоніме была складзена карта дарог Слонімскага павет Літоўска-Гродзенскай губерні з пазначэннем даўжыні шляхоў і важнейшых мастоў на іх. Маштаб карты: дзве вярсты ў адным сантыметры.

Акрамя таго, карта мае вялізную колькасць населеных пунктаў уезда, якія пазначаныя рознымі значкамі, у залежнасці ад тыпу населенага пункта. Аднак важней тое, што яна падрабязна пазначае межы ўезда.

У допісе да карты маецца ўзгадка пра слонімскі фарштат: "Паміж горадам Слонімам і фарштатам мастоў два – першы на канале Агінскага, а другі на Заліве ад Старой ракі Шчары. Там жа паміж горадам і фарштатам грэбля даўжынёю ў 230 саж. Па рацэ Ісе за фарштатам пры млынах мастоў тры".

На карце ёсць і запісы пазнейшага часу, у тым ліку малюнкі.

Захоўваецца ў ГДГАМ.

**Васіль Герасімчык**





*Слонімскія краязнаўцы*

# *Уладзімір Шундрык*



Уладзімір Іванавіч Шундрык нарадзіўся 3 траўня 1929 года ў вёсцы Рышчыцы Слонімскага раёна (цяпер — мікрараён горада). Паводле адукацыі ён быў настаўнікам, скончыў Гродзенскі педінстытут. Выкладаў беларускую мову і літаратуру. Захапляўся краязнаўствам, сабраў каштоўную бібліятэку. Яго вельмі цікавіла асоба паэта Гальяша Леўчыка і ён прыклаў шмат намаганняў, каб сабраць успаміны, сведчанні людзей, якія ведалі нашага славутага земляка. Так з’явіліся некалькі цікавых публікацый.[1] У 1960-я гады разам з іншым слонімскім краязнаўцам Васілём Супруном Шундрык адшукаў на старых могілках у Лабазоўцы магілу бацькі Леўчыка, Міхала Ляўковіча, на шыльдзе быў беларускамоўны тэкст.[2] Шкада, што не склаў ён пра Гальяша Леўчыка кнігу.

А яшчэ Уладзімір Іванавіч пісаў вершы, прозу. Праўдападобна, большасць яго рукапісаў загінула. Надрукавана было мала. Але яго верш “Мы — вольная моладзь!”, напісаны ў часы сталіншчыны, захаваўся і быў апублікаваны аўтарам гэтых радкоў у 1999 годзе.[3] Сшытак з прозай, напісанай у канцы 1940-х гадоў (за яе, як і за верш, Шундрыка маглі адправіць за краты), некаторыя іншыя матэрыялы былі намі перададзеныя на захаванне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

Уладзімір Шундрык быў шчырым беларускім патрыётам, браў удзел у дзейнасці Беларускага народнага фронту “Адраджэнне”. Калі Беларусь стала незалежнай, ён пачаў спрабаваць сябе ў публіцыстыцы — асэнсоўваў лёсавырашальныя падзеі, пакутную гісторыю нашага народу, спрабаваў зазірнуць у будучыню. Працытую адзін з яго артыкулаў, які амаль 25 гадоў таму апублікавала раённая газета: “Мала знойдзецца на свеце народаў з такім трагічным лёсам, як беларусы. Да свята, да Бацькаўшчыны, да саміх сябе мы прабіваемся скрозь здзекі, насмешкі і пагрозы, войны і эшафоты. Нам адмаўлялі ў праве мець свае ўласныя імёны — ужываць родную мову, апалячвалі і русіфікавалі, падзялялі рэлігіямі, мовамі, дзяржаўнымі межамі, ідэалогіямі. Нас выбівалі ў войнах — ад чвэрці да паловы насельніцтва краю, палавінілі, чацверталі ў імя іншадзяржаўных інтарэсаў. Але няма такой сілы, якая б магла знішчыць славу продкаў”.[4]

Апошнія гады жыцця Уладзіміра Іванавіча былі няпростымі, падарвалі яго здароўе. Ён памёр 25 снежня 2002 года, быў пахаваны на могілках па вуліцы Чырвоных партызан.

У гэтым нумары “СК” мы змяшчаем падборку фотаздымкаў Шундрыка, якія захавалі яго дочкі, а таксама з нашага архіву. Безумоўна, яшчэ не раз будзем вяртацца да асобы гэтага слонімскага краязнаўца і паэта. Паспрабуем сабраць пад адну вокладку яго публікацыі, параскіданыя па розных выданнях.

**Сяргей Ёрш**

1. Самая значная з іх наступная: Шундрык У. Гальяш Леўчык // Золак над Шчарай. Слонім, 1994, с. 74-80.

2. На жаль, калі летам 2015-га мы з Сяргеем Чыгрыном паспрабавалі яе адшукаць зноў па арыенцірах, якія пакінуў Васіль Супрун, нам гэта зрабіць не ўдалося. Многія помнікі, крыжы за апошнія дзесяцігоддзі проста зніклі.

3. Ёрш С. Праз 50 гадоў // Наша ніва, 1999, № 21, 6 верасня.

4. Шундрык У. Дзяды // Слонімскі веснік, 1991, 2 лістапада.



# “Горад кляштараў”

*Заканчэнне. Пачатак у № 8.*



*Касцёл бернардзінак на міжваеннай паштоўцы. Выданне кнігарні Рыпа*

Перавёўшы погляд на поўнач, мы ўбачым сцены кляштара непакалянак, былога бернардынак. Пашыраны з гэтага бока, выцягнуты амаль на 100 метраў блок касцёла і крыло кляштара, пабудаваныя ў адну лінію, з тоўстай бернардынскай вежай у цэнтры, не саромейцеся здымаць яго вялізныя прысадзістыя дахі і купалы.

Кляштар стаіць на плоскасці. Вакол кіпіць жыццё. Па акрузе нясецца звон званоў. Гул дзіцячых галасоў рэхам разносіцца ў двары і ў садзе. Гэта гукі хору дзяўчынак, чутныя нават нягледзячы на зачыненыя вокны, з вялікай скляпеністай залі на першым паверсе, як бы хочуць сказаць пра шляхетны пульс, што б’ецца ў гэтым кляштары. Затым зноў у цішыні пякучага поўдня ў кляштарным двары, скрозь адкрытыя вокны школьнага класа, чуваць лекцыю, якая чытаецца смелым голасам.

На касцёльны дзядзінец уваходзім праз браму-званіцу, багата аздобленую ў стылі барока. Яе тоўстыя сцены, закрытыя на ноч магутнымі дзвярыма, уключаюць убудаваную ў падлогу крутую лесвіцу, якая вядзе на званіцу. Прайшоўшы праз браму, уваходзім на шчуплы падворак, схаваны за зелянінай старых дрэваў. На левым баку ля ўвахода знаходзіцца касцёл з утопленай у замкнутым прамавугольніку кляштара высокай вежай. Дзядзінец утварае выдатны ўнутраны дворык.

Тут назіраем паўночную сцяну касцёла з двума характэрнымі нізкімі ўваходамі, адзін непасрэдна ў храм, а другі праз вежу, з вокнамі з плоскай аркай (пануючы элемент у Слоніме), ды характэрным аздабленнем, уціснутым у профілі тынкоўкі, вельмі моцна пабітай ля долу, з гірляндамі і анёламі, размешчанымі ў карнізах над кожным акенцам, што надае фасаду, разам з рэдкімі, смела выступаючымі пілястрамі, просты выгляд – і гэта не раздроблены вобраз, які нават у заходнім сонцы выглядае сінтэтычна.

Рухаемся далей, мінаем вежу, якая, як бачна зблізу, у кароткай перспектыве, выдзяляецца сваімі багатымі формамі. Павольна праходзім шэраг пілястраў, багацейшых з боку апсіды, якія здаюцца толькі эскізам, а апошняя з іх, на ступенях будынка кляштара, мае выступаючую падтрымку для карынфскіх завіткоў. Далей стаіць закрыты з усіх бакоў кляштар. Высокі крыты дах з дахоўкі (суцэльна дамінуючай у Слоніме), падпёрты барокавым карнізам, абараняе сцены будынка. Няправільныя пілястры, вымураваныя на швах сцен, з’яўляюцца адзіным упрыгожваннем невялікіх акенцаў. Бель вонкавых сцен надае сукупнасці элементаў дзівоснае зачараванне.

Гэтае пачуццё зачараванасці павялічваецца тады, калі, увайшоўшы праз парлаторый, астановішся ва ўнутраным кляштарным дворыку ля вясёлага скляпеністага калідора. З яснай усмешкай, з выразам твару, сканцэнтраваным на ўсеабдымным пачуцці дабрыні – у белым і блакітным адзенні – спяшаецца манашка.

Манаства кляштару перажыло горшыя часы расійскіх ганенняў. Прайшлі часы адмірання ордэна сясцёр бернардынак, якія выстаяў у цяжкіх выпрабаваннях, і па-ранейшаму, быццам сонца, ззяе на ўсю ваколіцу.

Я закахаўся ў сапраўды незвычайна багатую гістарычную спадчыну, якая жыве і ажыўляе сваёю духоўнасцю гэтыя прыгожыя муры.

У старой прасторнай залі, што месціцца побач з карнізам, вучацца па два-тры класы за-



*Брама касцёла бернардзінак на паштоўцы 1937 года. Выданне кнігарні Рыпа*

кладзенай ордэнам навучальнай установы. Муры кляштару завяршаюцца крыжовымі скляпеннямі і маюць таўшчыню не меншую 1,10 м. Адзін з калідораў, усходне-заходні, шырэйшы за іншыя і злучае два галоўныя асяродкі жыцця кляштару; у заходняй яго частцы размешчана вялікая, плошчай у некалькі соцень квадратных метраў, сталовая з адтулінамі (на кухні, са слядамі старой вяндлярні); другі канец вядзе да арыентаванага на ўсход барочнага касцёла. Невялікімі дзвярыма, змешчанымі ў сцяне вежы таўшчынёю ў два метры пераходзім на велізную ложу на другім паверсе вежы. Размешчаныя высокія скляпенні, адкрытыя на ўсю шырыню і вышыню сцяны спадаючымі каскадамі, прасяць іх адрэстаўраваць як узор мясцовага сталярства.

У сумна вядомых дамах, паўсталых у расійскія часы, найгоршыя для нашых крэсаў з пункту гледжання архітэктуры, мы бачым вялікую колькасць шырокіх будынкаў з высокім крытым дахам. Знаходзяцца яны на месцы прыбудовы і крыла існаваўшага да пачатку XIX стагоддзя палацу князёў Агінскіх, пабудаванага ў стылі барока. Зменены ў даўнія часы, або перароблены ў апошнія грамадзянамі, сваімі прапорцыямі ён выдае просьбу аб дбайнай увазе.

Вялікая сукенніца, сёння яшчэ размешчаная ля падножжа кляштара непакалянак, перапробленая да непазнавальнасці з бледнай цэглы, анямелай, калісьці зваленай з больш магутнага даху, крытага дахоўкаю, што падтрымліваўся вялікай колькасцю слупоў.

Яшчэ некалькі двароў рэзідэнцый мясцовых родаў у атачэнні старых дрэваў. Усё гэта надае Слоніму характар выбітнага крэсавага горада, а багацце і разнастайнасць будынкаў падкрэслівае яго старую польскую культуру.

**Вільгельм Хенеберг**

Кнігі пра Слонім

# Выданне, прысвечанае народнаму прадпрыемству “Альбярцін”




*Народное предприятие «Альбертин» / Н. М. Анищик, С. Р. Фарбер, А. Н. Шевнин. Минск : Полымя, 1992. 78 с.*

У пачатку 1990-х гадоў ААТ “Слонімскі кардонна-папяровы завод “Альбярцін” называўся народнае прадпрыемства “Альбярцін”. Слонімцы Ніна Анішчык, Самуіл Фарбер і Аляксей Шаўнін у 1992 годзе ў мінскім выдавецтве “Полымя” выдалі кнігу на рускай мове “Народное предприятие “Альбертин”. Наклад выдання быў 10 тысяч асобнікаў.

Кніжка выйшла з друку на добрай крэйдавай паперы, прыгожа ілюстравана чорна-белымі і каляровымі фотаздымкамі.

На 80 старонках яе аўтары распавядалі пра гістарычны шлях прадпрыемства, пачынаючы з 1790 года, калі для будаўніцтва папяровага млына Пуслоўскаму былі выдаткаваны лес і зямля.

Аўтары паведамляюць, што ў архіўных дакументах ёсць матэрыялы, якія сведчаць, што папяровая фабрыка ў Альбярціне была адкрыта ў 1806 годзе (110 гадоў таму). А пасля яе ў 1914 годзе аддалі ў арэнду Готлібу Шміту.

Падчас Першай сусветнай вайны, як пішуць Анішчык, Фарбер, Шаўнін, абсталяванне было вывезена ў Германію. І толькі ў 1927 годзе фабрыка “Альбярцін” зноў аднавіла сваю працу. Тады на фабрыцы працавалі каля 300 рабочых. Але праз некалькі гадоў на прадпрыемстве ўзніклі праблемы і яе гаспадар здаў фабрыку ў арэнду Францішку Вайцехоўскаму і Вульфу Гурвічу.

У 1931 годзе прадпрыемства запазычвала рабочым 100 тысяч злотых. Пачаліся забастоўкі…

Шмат старонак кнігі адрасаваныя гісторыі прадпрыемства і лёсу людзей, якія там працавалі. Праўда, многія факты, пра якія тады распавядалі аўтары, далёка не адпавядаюць сёння рэчаіснасці, яны ўсё ж маюць савецка-камуністычную афарбоўку, дзе адным прыпісвалася больш заслуг, а іншых зусім не згадвалі.

Тым не менш, знайсці цікавыя факты па гісторыі прадпрыемства ў кнізе можна. Гэта, найперш, матэрыялы пра кіраўнікоў прадпрыемства розных гадоў, пра будаўніцтва завода, пра поспехі і планы, пра перадавікоў і пераможцаў розных спаборніцтваў, пра сацыяльныя ўмовы работнікаў, асабліва, што датычыць 1970-х—1990-х гадоў.

Кніга “Народнае прадпрыемства “Альбярцін” выйшла з друку 24 гады таму. Нягледзячы на гэта, яна і сёння з’яўляецца своеасаблівым дакументам гісторыі гэтага прадпрыемства.

**Сяргей Чыгрын**

З АРХІВАЎ

# Невядомыя вершы Сяргея Хмары


Вастрожныя матывы
Краты.
Краты на вокнах, ў дзвярах, ў калідорах.
Краты і краты і краты!
А там за кратамі свет так багаты —
Сонца праменняў там мора.
Выйдзем на вуліцу з песняю
рабочы, араты —
— II —
Каранова
С. Хмара

"СК" неаднаразова звяртаўся да творчай спадчыны паэта Сяргея Хмары (сапраўднае прозвішча — Сіняк, 1905 — 1992). Частка яе дагэтуль не апублікаваная, знаходзіцца ў архівах. Вясной намі быў апублікаваны аўтабіяграфічны твор Хмары "Сымонка"*, у гэтым нумары ўпершыню друкуюцца тры вершы паэта, якія былі адшуканы ў архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі.

Вершы пад агульным загалоўкам "Вастрожныя матывы" маюць назвы "Краты", "Безназоўнае" і "Трыолет", усе яны падпісаныя "С. Хмара". Рукапіс быў найхутчэй дасланы ў рэдакцыю віленскага беларускага часопіса "Калосьсе" ў другой палове 1930-х гадоў. Аднак гэтыя творы Сяргея Хмары не публікаваліся. З аднаго боку, у іх невялікая мастацкая вартасць, з іншага — вершы пра турмы маглі стаць прычынай канфіскацыі нумару часопіса, а пасля і суду. Да таго ж, паэт дасылаў вельмі шмат сваіх паэтычных і празаічных твораў, сярод іх рэдактары адбіралі для публікацыі толькі самыя лепшыя.

Звяртае ўвагу той факт, што вершы, якія датуюцца канцом 1920-х, напісаныя так званай "наркамаўкай" (у 1933 годзе ў БССР была праведзеная рэформа граматыкі, але ў Заходняй Беларусі яе ўспрынялі крытычна). Уласна Хмарам датаваны толькі "Трыолет", напісаны ў лютым 1927 года ў гродзенскай турме. У студзені 1927 года яго арыштавалі падчас масавай "зачысткі" актывістаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, якую праводзілі польскія ўлады. У траўні 1928 года ў Вільні Сяргея Хмару асудзілі на 4 гады зняволення. Ён быў адпраўлены адбываць пакаранне ў Каранову на Паморʼе. Тады ж трапіў і ў Грудзёндз, што знаходзіўся непадалёку. На волю выйшаў па амністыі ў 1929 годзе.

У турэмных вершах, якія, верагодна, былі адноўленыя паэтам па памяці пасля вызвалення, ён перадае свае пачуцці, прагу да свабоды, да змагання. Турма зусім не зламала яго, наадварот, загартавала. Хмара не губляе надзеі і веры ў лепшую будучыню. Не можа змірыцца, што яго часова пазбавілі магчымасці займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю, творчасцю. Душа паэта і змагара рвецца на волю праз краты...

"Вастрожныя" вершы Сяргея Хмары шмат у чым недасканалыя. Але іх каштоўнасць у тым, што яны перадаюць дух таго няпростага часу, паказваюць тыя абставіны, у якіх на два гады апынуўся паэт з Казлоўшчыны. Ягоны талент напоўніцу раскрыецца ў 1930-я гады, калі ён будзе друкавацца ў самых папулярных заходнебеларускіх выданнях, а напярэдадні Другой сусветнай вайны ў Вільні выйдзе зборнік вершаў "Жураўлiным шляхам". А тады, у 1920-я гады, Хмара яшчэ шліфаваў свой стыль, эксперыментаваў, удасканальваў сваю беларускую літаратурную мову.

У гэтай публікацыі трох вершаў намі выпраўленыя нешматлікія памылкі, пастаўленыя некаторыя знакі прыпынку, замененыя на беларускія адпаведнікі русізмы. Таксама былі зробленыя тлумачэнні да некаторых словаў, якія ўжывае аўтар.

**Сяргей Ёрш**

*Ёрш С. Невядомы аўтабіяграфічны твор Сяргея Хмары // Слонімскі край, 2016, № 3, красавік, с. 14.

### *Вастрожныя матывы*

**Краты**

Краты на вокнах, у дзвярох,
у калідорах.
Краты і краты, і краты!
А там за кратамі
свет так багаты —
Сонца праменняў там мора.

Хоць бы адну як злавіць
дзе касулю*
Цераз матовыя шкліны!
Вока да шчыліны ў бліндах**
прытуліш
Бачыш — дзве клёну галіны.

Коцяцца месяцы...
Коцяцца годы...
Рыюць на лбе каляіны.
Ловіш усцяж вухам
шумы свабоды...
Чакаеш тэй Вялікай
Хвіліны!

Як бухне хваля ў
жалезную браму,
Скруціць саломкаю краты.
Выйдзем на вуліцу з песняю

самы,
Спаткаюць — рабочы,
араты.***

*Каранова*

*Прамень.
**У аконных рамах.
***Селянін.

**Безназоўнае**

Учора раптам
вырваўся віхром
З вакон шалёны крэч
О-о-о... О-о-о... О-о-о...
Прэч!
А сёння зноў ажыў
пануры гмах
На некалькі хвілін.
І зноў крычала ўся турма
З-за мутных блінд.
І чуўся ў крыках тых
пякучы боль
О-о-о... О-о-о... О-о-о...
Усплывалі ў вачох
знаёмы абразы:
Ключы...
Патыліцай лічэнне сходаў...
Дзікая морда...
Пятлёю лапы
За шыйныя вязы*...
...З вакон шалёны крэч
О-о-о... О-о-о... О-о-о...
Прэч!..

*Грудзёндз*

*Жылы.

**Трыалет**

Чырвоным водбліскам
на шкле тых вокнаў
Пунсавее ад усходу
кругазор
І згінулі на небе статкі зор...
Вітае ўсход пташына*
песняй звонкай.

І крочыць мерна па двары
дазор
І спіць вастрог ацапянелым
сном глыбока
Чырвоным водбліскам
на шкле тых вокнаў
Пунсавее ад усходу
кругазор.

*5/II [19]27. Горадня*

*Птушка.

*Знаходкі*

# Альбярцінскае пасведчанне XIX стагоддзя


ALBERTYN
ZARZĄD GŁÓWNY.

Świadectwo

Niniejszem zaświadczam, iż p. Michał Koszelak służył w Albertynie-rezydencyi F. X. Hrabiego Pusłowskiego, jako ogrodnik od 23go Września/5go Października/1878 r. do 15/27 Kwietnia 1882 roku, a sprawując się spokojnie, uczciwie i trzeźwo, obowiązek swój pełnił gorliwie, dawszy dowody znajomości rzeczy z fachem jego w położeniu będących; na własne żądanie uwolnionym został.

d. 16 Kwietnia 1882 r. Albertyn.

Pełnomocnik F. X. Hr. Pusłowskiego

Цікавы дакумент нядаўна трапіў мне ў рукі — гэта пасведчанне ўпаўнаважанага Францішка Ксаверыя графа Пуслоўскага. На старой паперы з пячаткаю і вуглавым альбярцінскім штампам на польскай мове напісана:

Пасведчанне

Гэтым сведчу, што п[ан] Міхал Кошэляк служыў у Альбярціне — рэзідэнцыі Фр[анцішка] К[саверыя] графа Пуслоўскага агароднікам з 23 верасня / 5 кастрычніка 1878 г[ода] да 15/27 красавіка 1882 года, а, паводзячы сябе спакойна, сумленна і цвяроза, абавязак свой выконваў старанна, даўшы доказы ведання справы згодна ягонай прафесіі; па яго ўласнай просьбе быў вызвалены.

д[ня] 16 красавіка 1882 г[ода]. Альбярцін.

Упаўнаважаны Фр[анцішка] К[саверыя] гр[афа] Пуслоўскага
(подпіс неразборлівы)

Падобныя дакументы — сведкі нашай гісторыі. Яны нас вяртаюць у мінулае і распавядаюць пра тое, чым займаліся людзі, напрыклад, у таго ж графа Пуслоўскага, як яны сябе паводзілі, як выконвалі свае службовыя абавязкі і г. д. І пра гэта мы таксама павінны ведаць.

**Сяргей Чыгрын**

*Фалерыстыка*

# Першы пасляваенны слонімскі значок




Да 25-годдзя вызвалення Слоніма ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якое адзначалася ў 1969 годзе, быў выдадзены значок на беларускай мове. На ім адлюстраваны вечны агонь і скульптура савецкага салдата з аўтаматам і апушчаным у жалобе сцягам. Такі помнік стаіць у Слоніме на вуліцы Пушкіна. Ён быў устаноўлены ў 1956 годзе (скульптар — Акім Курачкін). Перад помнікам гарыць Вечны агонь. Побач на плітах высечаны прозвішчы вайскоўцаў і партызан, якія загінулі падчас вайны.

Уверсе на значку стаяць гады: 1944-1969, унізе на беларускай мове напісана “Слонім”. Гэта першы пасляваенны значок, прысвечаны нашаму гораду.

**Сяргей Чыгрын**

*Знаходкі*

# Слонім на паштоўцы, якой 140 гадоў

У 1856 годзе ў Санкт-Пецярбургу выйшаў сувенірны набор з 82 паштовак. Кожная з іх прадстаўляла пэўны рэгіён тагачаснай Расійскай імперыі. На адным баку карты была назва губерні, яе карта, герб, інфармацыя пра рэкі, пра насельніцтва (колькасны і нацыянальны склад, быў змешчаны малюнак жыхароў у традыцыйным адзенні), характарыстыка клімату, глебы. На другім баку пералічваліся гарады губерні, яе прыродныя і эканамічныя асаблівасці, адлегласць ад губернскага цэнтра да Пецярбурга і Масквы, дадаваліся малюнкі.

**Генадзь Гурскі**







*Каляндар*

## Кастрычнік



**10 кастрычніка** 1934 года ў Ганцавіцкім раёне нарадзіўся Мікалай Варвашэвіч, заслужаны работнік культуры, заснавальнік Слонімскага драматычнага тэатру. Памёр у 2001 годзе.

**12 кастрычніка** 1943 года ў лесе "Воўчыя норы" на поўдні Слонімшчыны ў партызанскай друкарні выйшаў першы нумар аднаўленай раённай газеты "Вольная праца" (даваенная нумерацыя ўлічвалася). У 1962 годзе газета атрымала назву "За перамогу камунізму". З 1991 года яна называецца "Слонімскі веснік".



СМЕРЦЬ НЯМЕЦКІМ АКУПАНТАМ!

Прачытай і перадай другому.

ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Слонімскага РК КП(б)Б.

№ 1 (202) аўторак, 12 кастрычніка 1943 г.

АДСТУПАЮЧЫ ВОРАГ НІШЧЫЦЬ І ГРАБІЦЬ КРАІНУ.
ХАВАЙЦЕ ВАШАЕ ДАБРО!
НІ АДЗІН БЕЛАРУС, НІ АДЗІН ПАЛЯК НЕ ПАВІНЕН ПРАЦАВАЦЬ НА КАРЫСЦЬ НЕМЦАЎ-РАЗБОЙНІКАЎ!

ЧАС ПЕРАМОГІ БЛІЗКА.

25 верасня 1939 года выйшаў у Слоніме першы нумар „Вольнай Працы", першай беларускай газеты ў гэтым горадзе. Але пасля выпуску 22-га чэрвеня 1941 года 201 нумару... багатымі запасамі каменнага вугалю, вялікія абшары чарназёмнай глебы, шырокая чыгуначная сець. Разам з вызваленнем Таманскага паўвострава (Кубані)... супроць іх стаяць такія волаты, як Савецкі Саюз, Англія і С. Ш. Амерыкі. Поруч з франтавым знішчэннем партызаны і англо-амерыканскія самалеты разбураюць тылы немцаў. Сёння няма ні аднаго кутка Нямеччыны, куды-б не даляталі...



**15 кастрычніка** 1949 года ў вёсцы Парэчча на Слонімшчыне нарадзіўся Аляксей Якімовіч, вядомы дзіцячы пісьменнік, драматург, настаўнік.

**20 кастрычніка** 1812 года Слонім занялі рускія войскі генерала Чапліца. У той жа дзень у наваколлі горада яна разбілі полк французскага генерала Яна Канопкі, набраны з мясцовых жыхароў, які ваяваў на баку Напалеона.

**20 кастрычніка** 1916 года ў Расіі, куды сям'я выехала з в. Какошчыцы ў бежанства, нарадзіўся слонімскі паэт Алесь Сучок (сапр. Пётр Дабрыян). Памёр у 1993 годзе.

**22 кастрычніка** 2010 года ў Мінску на 53-м годзе жыцця



памёр наш зямляк Павел Лойка. Ён быў вядомым гісторыкам, аўтарам школьных падручнікаў.

**23 кастрычніка** 1928 года ў вёсцы Хадзявічы нарадзіўся Лаўрэн Клыбік, медык, навуковец, дзеяч беларускай эміграцыі. Памёр у 2005 годзе ў Бельгіі.



**26 кастрычніка** 1999 года памёр слонімскі паэт Анатоль Іверс (сапр. Іван Міско), пахаваны на могілках па вуліцы Чырвоных партызан.

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры передруку спасылка на СК абавязковая

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык (рэдактар нумару)
Сяргей Ёрш
Сяргей Чыгрын